# Голас Радзімы

№ 32 (2018)
6 жніўня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**Усмешкі, сонца і рамонкі. Сярод гэтага хараства — радасныя, шчаслівыя дзяўчынкі ў рускіх сарафанах і какошніках. Наташа ВАЛЬДЗІС, Йох ДАЕМАНС і Клава КАПЕНОЛ прыехалі з Бельгіі і Галандыі. Гэта іх першае выступленне ў канцэрце, прысвечаным пачатку іх знаходжання ў піянерскім лагеры.**

**(Артыкул аб дзецях суайчыннікаў з Бельгіі, Галандыі і Італіі ў піянерскім лагеры «Зялёны Бор» змешчаны на 4-й стар.).**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## «ЗЕЛЕНЫЙ БОР» ПРОВОДИЛ СВОИХ ГОСТЕЙ

# ЖЕЛАЮ СЧАСТЬЯ ВСЕМ ЛЮДЯМ

С современным Минском, городом зеленым, гостеприимным и героическим, у многих зарубежных земляков самых разных возрастов в разных странах мира связано множество воспоминаний и впечатлений. Они листают альбомы, перекладывают фотографии и как будто снова оказываются на его широких улицах, просторных площадях.

— В Минске обязательно обрати внимание на памятники, — говорил дома Александр Биннерц своей матери Екатерине Ильиничне, сопровождающей голландских детей. Шесть лет тому назад он побывал в нашем городе в составе молодежной группы.

— Саша так интересно, так образно рассказывал о белорусской столице, что, мне кажется, я знала её уже до того, как увидела сама, — говорила Екатерина Ильинична.

— И мы с Сережей тоже как будто видели и Минск, и Хатынь, и особенно «Зеленый Бор». Знали, какие в пионерском лагере порядки, какие тут хорошие ребята, — голубоглазая худенькая Клава Коппенол застенчиво улыбается.

На приеме в Белорусском обществе «Радзіма» Клава увидела фотографии прошлых лет. На одной из них среди ребят нашла своего брата.

— Посмотрите, это наш Саша, — радовалась Клава. — Когда он здесь отдыхал, ему было всего 9 лет, а сейчас уже 17. Как он завидовал нам с Сережей! Жаль, что таких больших ребят в пионерский лагерь не приглашают.

Прием в обществе «Радзіма» нашим гостям запомнится надолго. Пожалуй, это одно из самых ярких впечатлений. Поразил их красиво сервированный стол, заставленный сладостями, фруктовой водой, пепси-колой. А в центре, рядом с самоваром, красовался большой торт «Мишка». Запомнилась здесь ребятам и атмосфера доброжелательности, симпатии, они оценили желание хозяев доставить им радость и удовольствие.

— Вы приехали на Родину ваших родителей, бабушек и дедушек, — обратился к ребятам первый заместитель председателя президиума общества «Радзіма» Н. Василенок. — Они бывают у нас, переписываются с нами, а теперь вот прислали вас. Многие из наших бывших гостей уже сами стали мамами и папами, но пионерский лагерь, Белоруссию не забывают.

Гости тоже рассказали, как интересно им здесь живется, и почти все задали один и тот же вопрос: можно ли будет приехать в «Зеленый Бор» снова.

Конечно, можно. Если не в пионерский лагерь, то в молодежной группе по «Спутнику», или по приглашению общества «Радзіма», которое устраивает встречи с теми, кто отдыхал раньше у нас в пионерских лагерях. Можно, если в мире будет тихо и спокойно. Очень часто, особенно в последние годы, слышим от наших соотечественников, приезжающих в Минск, что они хотят внести деньги в Советский фонд мира. Люди, пережившие войну или только увидевшие ее следы на нашей земле, не хотят повторения трагедии. И Евдокия Литвин, сопровождающая из Бельгии, и Екатерина Биннерц были совсем девчонками, когда гитлеровцы вывезли их с Украины на каторгу в Германию. Страшнее голода и побоев были унижения, которым фашисты в концлагерях подвергали свои жертвы. Еще ужаснее — разлука с близкими, с Родиной, разлука, длящаяся уже почти полвека.

— Примите и наши скромные сбережения, — сказали женщины из Бельгии и Голландии, отдавая деньги в Фонд мира. К ним присоединилась и Лина Медведовская, руководитель итальянской группы. Все это люди взрослые, много перестрадавшие, понимающие, откуда сейчас исходит угроза человечеству. Никогда раньше не просили принять у них деньги в Фонд мира дети. Мы и сейчас пытались убедить их не делать этого: сами ведь они еще не зарабатывают. А то, что родители дали с собой,—это на мороженое, конфеты, сувениры. Барри Тееувен, Сережа Коппенол, Марике ден Хартог и другие ребята сказали, что пусть их вклад будет чисто символическим. Ведь они понимают, как важно сегодня, чтобы все люди боролись и защищали Землю от войн.

На Западе нас порой упрекают, что мы много говорим о прошедшей войне. И я часто в репортажах о пребывании в Минске детей из-за рубежа писала об их впечатлениях от посещения музея Великой Отечественной войны, Хатыни. Думала сейчас опустить эту тему, ведь у ребят столько других впечатлений о жизни в лагере, встречах, поездках в город. Не получилось. Трудно, находясь в Белоруссии, не задуматься о последствиях прокатившейся по ней войны. Наши юные гости — итальянцы, бельгийцы, голландцы —оказались очень эмоциональными, чувствительными к чужому горю.

Семилетний Саша Кадальо, отправляя письмо в Италию, написал: «Привет вам из Советского Союза, где была война». Это вовсе не значит, что он о войне услышал впервые. Он здесь ее ощутил, «потрогал».

В лагере проводился вечер, посвященный хлебу. Ребята услышали, сколько сил и пота надо затратить, чтобы вырастить хороший урожай, как трудно давался кусок хлеба крестьянину в дореволюционное время и что в годы Великой Отечественной войны иногда цена хлебу была человеческая жизнь. На столе лежал пышный румяный каравай



из пшеничной муки (такого хлеба сегодня сколько хочешь в любом хлебном магазине) и маленький чёрный ломтик весом 125 граммов — дневная норма в блокадном Ленинграде.

— Это столько получала и моя бабушка? — обмирая от ужаса, громким шепотом спросил у матери Саша. Анна Моисеевна, мать Лины Медведовской и бабушка Саши и Франчески, приехала в «Зеленый Бор» из Ленинграда, где в войну прожила неимоверно трудную блокадную зиму. Она рассказывала, как мужественно вели себя ленинградцы, обороняя свой город, сутками не выходили из цехов, умирали без хлеба и тепла. Плакала старая женщина, не выдерживали и ребята, слушавшие ее.

— Моя бабушка тоже прошла через фашистский концлагерь. Я знаю, что она много страдала, и мне ее очень жалко, — рассказывала Ванесса Муши. Девочка очень любит свою русскую бабушку Надю. Пока не пошла в школу, воспитывалась у нее. Бабушка часто вспоминает, как хорошо жилось ей до войны, как сама была пионеркой, какая замечательная страна ее Родина.

Для нее Ванесса вела здесь дневник, куда старательно записывала свои впечатления, описывала места, где побывала, что нового узнала. Очень подробно записала она рассказ экскурсовода о Хатыни, даже запомнила имя палача Дирлевангера, по приказу которого была сожжена мирная белорусская деревня вместе с жителями.

Рассказ Джулио Ицковича не по-детски серьезный.

— Мы в Европе, конечно, слышали о второй мировой войне. Когда фашистская Германия капитулировала, к сожалению, не все войны на замле закончились. Я лично знаю об одной из них, потому что у меня родственники в Аргентине. Там была гражданская война. Мирных людей арестовывали, и они исчезали навсегда. Я знаю одного человека, который потерял детей двух и пяти лет. Я потерял двоюродного брата. Эту войну я сам не видел, но я ее почувствовал. Мне трудно понять, почему люди никак не перестанут воевать.

Джулио, как и Ванесса, ведет дневник. Только пишет в нем по-русски.

— Так велел мне отец. Это ведь для меня большая практика, — объясняет мальчик. — В Италии я изучаю русский язык с преподавателем.

В этом году в нашей стране Джулио второй раз. В мае он приезжал к нам с группой итальянских партизан, сражавшихся в годы второй мировой войны против Гитлера. Под Ленинградом они побывали на могиле итальянского антифашиста, перешедшего на сторону русских.

Джулио очень понравился Ленинград, его замечательные музеи, из которых наибольшее впечатление на него произвел этнографический.

— Мне было интересно, потому что там я узнал много нового, — объяснял Джулио. — Советский Союз населяют разные народы. У каждого своя история, культура, обряды. Совершенно не похожи между собой литовцы и узбеки, или, например, белорусы и грузины. Но я понял, что все они равны в вашей стране.

Интересно Джулио, как и другим ребятам, было и в лагере. Они никогда не скучали. Участвовали в спортивных соревнованиях, купались в бассейне. Запомнился ребятам вечер сказки. Джулио выучил наизусть всю «Муху-цокотуху» Корнея Чуковского.

«Мы представляли сказку в лицах, Клава была Мухой. Вот был успех! Мы завоевали первое место», — это запись из дневника Джулио. Из русских писателей мальчик знает не только Чуковского. Читал он и сказки Пушкина. Ему знакомы имена Гоголя, Льва Толстого, Достоевского. Побывав в Белоруссии, он узнал и Янку Купалу, увез с собой в Италию томик стихов белорусского поэта.

О Янке Купале многие ребята впервые услышали на экскурсии в Вязынке. Здесь поэт родился, здесь теперь находится его музей. Об этой поездке интересно рассказывала Ванесса. Ей понравился домик поэта, потому что его сохранили таким, каким он был когда-то. «А может быть он просто напомнил дом бабушки и дедушки под Триестом. Я ведь говорила: мне нравится все, что нравится бабушке. И портреты родителей Янки Купалы тоже напомнили мне бабушку и дедушку. Ведь они у меня такие же крестьяне, как и те, о которых писал Янка Купала. Я поняла, что до революции простой народ был унижен, а поэт показал, что и крестьяне имеют душу».

В музее в Вязынке дети увидели серп, которым крестьяне жали созревший хлеб.

— Смотрите, — закричали они. — Это как в советском гербе!

* * *

Очень быстро пролетел месяц. Как всегда, не хотелось уезжать, жаль было расставаться с друзьями.

— Я очень благодарен, что меня пригласили в пионерский лагерь, — сказал на прощание Сережа Коппенол. — Я желаю счастья и мира всем хорошим людям.

— А я возьмусь по-настоящему за русский язык,—пообещал Барри Тееувен. — Думаю, бабушка мне поможет. Теперь я знаю, какая замечательная ваша страна. Я хочу ее изучить еще лучше, бывать здесь чаще.

**Диана ЧЕРКАСОВА.**

**НА СНИМКЕ: ребята на экскурсии в Хатыни.**

---

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# КАЛІ ЛАСКА!

Хачу расказаць пра наша жыццё.

Час, хваробы змянілі лёсы многіх нашых сяброў. Адны пастарэлі, другія вярнуліся на Радзіму, і, натуральна, колькасць членаў нашага Славянскага таварыства зменшылася. Але вось сталі прыязджаць землякі з іншых гарадоў краіны — Блэкпула, Ліверпуля, Манчэстэра, Нотынгема, Лондана...

Работа зноў актывізавалася. Мы адзначаем святы ўрачыста з застоллем, прапаноўваем літаратуру, паказваем фільмы, гутарым з членамі сваёй арганізацыі. Адзначаем сустрэчу Новага года, Міжнародны жаночы дзень 8 Сакавіка, Міжнародны дзень салідарнасці працоўных 1 Мая, Дзень Перамогі.

Памяшканне нашага клуба невялікае, але месца хапае ўсім.

Пры клубе ёсць вельмі добрая бібліятэка, у якой налічваецца больш за 800 экземпляраў кніг на трох мовах: рускай, украінскай, беларускай. Мы высылаем поштай кнігі і часопісы па просьбе тых, хто не ў стане наведваць бібліятэку. Плату за расходы чытач бярэ на сябе.

Славянскае таварыства арганізавала дзве цудоўныя паездкі на Радзіму. Турыстычную аўтобусам на 10 дзён для дарослых і дзіцячую — у піянерскі лагер пад Мінскам. Шчаслівым было мінулае лета ў нашых сяброў па клубу! А восенню мы зноў сабраліся ўсе разам, абмяняліся радаснымі ўражаннямі ў сяброўскай абстаноўцы адной вялікай славянскай сям'і.

Якая б пара году ні была — вясна, лета, восень ці зіма — наша таварыства жыве, мацнее, прымае сяброў сваёй Радзімы, з радасцю клапоціцца аб іх.

Мы ўсім гаворым: «Калі ласка, прыязджайце да нас!».

**Таісія БАЎДАЛА.**

Англія.

# ЗНОЎ ПЕРАЖЫВАЮ РАДАСЦЬ

Добры дзень, дарагія сябры!

Даўно збіралася написаць вам, ды ўсё ніяк не атрымлівалася. Нарэшце, знайшла сабе кватэру, але не ведаю, як доўга буду тут жыць, таму што кожны год цэны павышаюцца і, можа, неўзабаве мне гэта будзе не па кішэні, бо мая пенсія не прыбаўляецца.

Вось села вам пісаць і быццам бачу вашы твары, успамінаю нашу сустрэчу ў Мінску. Калі я прыехала дамоў, то доўгі час хадзіла, як у сне. Увесь час перад вачыма стаяла Радзіма, нашы добрыя гасцінныя людзі. Я зноў перажывала ў душы радасць убачанага ў Беларусі — прыгажосць прыроды, грандыёзнае будаўніцтва, дабрабыт людзей, спакойныя вечары, калі не трэба баяцца бандытаў і грабежнікаў, а галоўнае, упэўненасць людзей у заўтрашнім дні. Да мяне цяпер часта прыходзяць знаёмыя і незнаёмыя суайчыннікі і распытваюць пра Радзіму. Я ім паказваю фотаздымкі, расказваю аб прыгажосці Беларусі, іншых месцаў, дзе пабывала — аб Украіне, Іркуцку, Баку і непаўторным Байкале, Ялце і Ташкенце. Расказваю і аб сваёй сустрэчы з сястрой, братамі і пляменнікамі. Так што маіх уражанняў хопіць, каб расказаць усё жыццё дзецям і ўнукам. Больш магчымасцей сустракацца з прадстаўнікамі нашай Радзімы з'явілася цяпер і тут. Нядаўна пабывала на выступленні савецкіх фігурыстаў. Вельмі добра каталіся, сапраўдныя майстры свайго мастацтва. Канадцы былі задаволены канцэртам, захапляліся танцамі, прыгажосцю касцюмаў. А што я перажывала, словамі не пераказаць.

Яшчэ раз хачу падзякаваць за нашу цудоўную сустрэчу на Радзіме, за вашу ўвагу да мяне і пажадаць усім вам шчасця, поспехаў у працы і ў барацьбе за мір.

**Ганна КАРАЛЁВА.**

Канада.

# КАК ПРОЖИТЬ ДО 100 ЛЕТ

В СССР нередко говорят: хочешь прожить 100 лет, поезжай на Кавказ. В Абхазии, например, во время последней переписи населения зарегистрировано около двух тысяч человек, перешагнувших 90-летний рубеж. А 548 жителей этой автономной республики уже отпраздновали свой 100-летний юбилей. Это при 530 тысячах населения. Выходит, что примерно на каждую тысячу человек приходится один 100-летний старец.

Правда, благие уголки Кавказа — не единственные места в СССР, где люди живут долго, где с исключительной доброжелательностью относятся к пожилым людям, окружая их всеобщим вниманием и почетом. Много людей почтенного возраста и в Якутии, половина территории которой расположена за Полярным кругом, у полюса холода. Еще в прошлом веке издававшийся в России журнал «Северный архив» писал, что якуты долголетни, одарены крепким сложением и столетних старцев меж ними множество. В 1972 году на проходившем в Киеве международном конгрессе геронтологов Якутия была признана центром долголетия Сибири. На каждые 100 тысяч коренного населения в этой автономной республике зарегистрировано более трехсот долгожителей.

Во время поездок в Абхазию и Якутию я пытался выяснить хотя бы примерный рецепт долголетия, но рекомендации оказывались разноречивыми. Один видел причину в том, что жил только в селе, а не в городе, другой — в том, что на Кавказе нет жгучих холодов, а в Якутии, добавлю я от себя, не бывает жары, третий — в том, что всегда рано ложился спать и рано вставал, что имел большую семью или что не имел семьи, что пил только воду и т. д. Но кое в чем долгожители сходились. Все они умеренны в еде, как и во всем другом, предпочитают активный образ жизни, связанный с трудом, физическими нагрузками, движением.

Вспоминаю разговор с абхазцем Михелом Аргуном, который в 91 год летал в Японию для участия в празднике «День уважения людей преклонного возраста».

— Кто не дышал горным воздухом,— говорил мне Михел, — тот вообще не дышал. Наш воздух прозрачный, как хрусталь, и целебный, как овечий сыр. Проживи в Абхазии месяц, к тебе целый год не пристанет никакая болезнь.

Я понял так, что Михел считает главной причиной долгожительства в Абхазии целебный воздух.

— Лучше скажи, одной из главных,— поправил он.— Еще и двигаться надо. Без движения и дышать не сможешь.

Дополнение было важным. В наши дни почти все знают о гиподинамии, болезни века, связанной с недостаточностью движения. К наиболее эффективным средствам против нее относят спорт, регулярные занятия физической культурой, активный, подвижный отдых. Многие во имя укрепления здоровья становятся членами клубов любителей бега, совершают регулярные прогулки на лыжах, на велосипедах и т. д. Но все это не для тех, чей возраст преклонен и кому также необходимо движение. А в каких дозах, формах? И вообще, действительно ли физическая активность способствует продлению жизни?

Касаясь этих проблем, профессор киевского университета специалист по молекулярной генетике Геннади[illegible]ердышев говорит так:

— Исследования показывают, что способность к долгожительству наследуется. Но гены обеспечивают, если можно так сказать, лишь при[illegible]но 40 процентов того, что [illegible]ледственная возможность будет реализована. Остальные 60 процентов реализации связаны с образом жизни, общей физической культурой человека. Курение, алкоголь, малая двигательная активность, незакаленность к внешним воздействиям, нерациональное питание, плохо организованный труд, психические перегрузки способны подорвать и очень крепкое здоровье, перечеркнуть даже самую благоприятную наследственность.

Почти после каждого разговора с долгожителями я убеждался, что это действительно так. Они, как правило, не пьют крепких напитков и не курят, постоянно работают, двигаются, не позволяя себе даже в преклонном возрасте бездельничать. В их среде, кстати, популярна поговорка о том, что болезни поселяются в человеке тогда, когда он без дела.

Некоторые японские специалисты считают, что современному человеку для поддержания здоровья необходимо в день минимум 10 000 шагов. Я интересовался у долгожителей, приходится ли им делать за день столько шагов. Обычно они только посмеивались в ответ, говорили, что не считали, но непременно добавляли, что, наверное, делают не меньше, потому что в движении с утра и до вечера.

Еремей Олесов из якутского села Никольцы родился в 1879 году. На мои вопросы отвечал охотно, даже с юмором. Сказал, что дожил до таких лет, потому что вел, как выражаются теперь все газеты, здоровый образ жизни. А еще потому, что стареть было некогда. Всю жизнь охотился в тайге на пушного зверя. Ходил и на медведя. Так что физкультуры хватало. К этому надо добавить, что он никогда не пил и не курил. В 69 лет женился во второй раз. Вырастили с женой шестерых детей, пошли внуки и правнуки. Когда же стареть?

**Павел ГАЛИН.**
АПН.

# ДАВНИЙ ДРУГ—ЛОШАДЬ

О лошади — верном друге человека с незапамятных времен складывались легенды и сказания, песни и былины. Правда, в связи с бурным развитием механического транспорта стали говорить о так называемом «конце лошадиной эры», закате коневодства. Так ли это?

В последние десятилетия у нас в стране наблюдается все возрастающий интерес к коневодству, конному спорту и туризму. Все чаще дробный стук лошадиных копыт можно слышать не только на колхозных полях или проселочных дорогах, но и в крупных индустриальных центрах.

Как ни парадоксально, это повышение интереса в значительной мере объясняется именно быстрым развитием техники. В современных городах с асфальтобетонными дорожками среди грохочущих автомобильных потоков человек все более тянется к живой природе. Вот и появляются конно-спортивные школы, ипподромы, городские базы проката и манежи.

Основы советского коневодства заложил подписанный В. И. Лениным в 1918 году декрет, по которому все племенные животные объявлялись народным достоянием. Несмотря на огромный ущерб, понесенный в годы Великой Отечественной войны, когда было утрачено около 8 миллионов лошадей, наше коневодство возвратило себе передовые позиции в мире.

...На ВДНХ СССР в павильоне «Коневодство» посетители останавливаются перед золотисто-буланым красавцем-конем. На таблице надпись: «Гаухар, 1972 года рождения, выращен в Луговском конном заводе Казахской ССР». Рядом золотисто-гнедой Герден и элегантная кобыла Марал с конного завода «Комсомол Туркмении». Эти лошади не случайно попали на главную выставку страны, они принадлежат к древнейшей верховой породе—ахалтекинской.

Ахалтекинская лошадь отлично приспособлена к суровым условиям климата пустынь, отличается выносливостью, редким разнообразием масти. Знаменитая еще в античном мире, она не внушает сейчас опасения за свое будущее: советские специалисты создали чистопородный табун из 1 800 ахалтекинцев.

На ВДНХ СССР широко представлены и десятки лошадей других пород: чистокровные арабские, русские рысистые, сравнительно новая латвийская упряжная, представительница которой гнедая кобыла Дайга 1974 года рождения проходит расстояние 2 000 метров с грузом 1 700 килограммов за 6 минут 17 секунд.

На 1 января 1986 года у нас в стране насчитывалось 5,8 миллиона голов лошадей 40 пород. Имеется 104 конных завода, 65 ипподромов, сотни колхозных ферм, в том числе кумысных. Только за последнее десятилетие численность племенных кобыл увеличилась в полтора раза.

Наряду с традиционным использованием тяговых лошадей, укреплением табунного и молочного коневодства, экспортом племенных лошадей в нашей стране успешно развивается конный спорт. Так, выдающийся результат показал гнедой жеребец сов[illegible]ой селекции Кипр—2 400 метров на московском ипподро[illegible]он с мастером-наездником Михаилом Козловым промчал за 3 минуты 15 секунд.

Успехи советских конников имеют достаточно прочную базу: освоены новейшие методики тренировок, разведения племенных [illegible]адей. По прежнему активно поддерживаются деловые к[illegible]акты с коневодами Монгольской Народной Республики, где сейчас работает группа советских зоотехников и ветеринаров.

**Олег КРЮЧКОВ.**

**Эти снимки сделаны в трех разных городах Советского Союза — Ташкенте, Костроме и Одессе. И хотя географически они расположены далеко друг от друга, на газетной полосе вместе встретились не случайно, поскольку среди иностранных туристов, в том числе и наших зарубежных соотечественников, они пользуются одинаково большой популярностью. Ежегодно, особенно в летнее время, сюда приезжает множество гостей из разных стран мира. Двухтысячелетний Ташкент, который был сильно разрушен землетрясением в 1966 году, привлекает своими новыми улицами и проспектами, площадями и парками. Столица Узбекской ССР по праву считается одним из красивейших городов Советского Союза.**

**Областной центр Кострома, расположенный на Волге, больше известен историческими памятниками. Горожане бережно сохраняют все, что осталось в наследство от прошлых столетий. В местном краеведческом музее немало интересных экспонатов, рассказывающих об истории этого края. В городской картинной галерее находятся полотна известных русских художников.**

**А Одесса — это, прежде всего, крупный черноморский порт. Потому не случайно, что профессия моряка здесь считается самой популярной. Город славится также своими курортами. Сюда приезжают лечить органы дыхания, нервную систему, сердечно-сосудистые и другие заболевания. Многие наши зарубежные соотечественники отдыхали в черноморских здравницах и по достоинству оценили благотворное влияние мягкого климата и щедрого солнца.**

**НА СНИМКАХ: Ташкент—столица Узбекистана; Ипатьевский монастырь в городе Костроме; Одесский морской порт.**







### Пімен ПАНЧАНКА: СЛОВА НЕ СРОДАК АДЛЮСТРАВАННЯ ЖЫЦЦЯ, А ФОРМА ЎДЗЕЛУ Ў ІМ

# ІМЕНЕМ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

**Пімен Панчанка — адзін з найбольш вядомых і папулярных у Беларусі паэтаў. У час вайны — армейскі газетчык, аўтар палымяных вершаў, якія клікалі народ на барацьбу з ворагам. Пазней працуе ў рэдакцыях часопіса «Вожык», газеты «Літаратура і мастацтва», рэдагуе часопіс «Маладосць».**

**У канцы мінулага года адметнай літаратурнай з'явай стаў яго зборнік новых вершаў «І вера, і вернасць, і вечнасць». А сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга выбраных твораў паэта — лепшае з напісанага ім за паўстагоддзя творчай дзейнасці. Яна стала своеасаблівай творчай справаздачай аўтара да свайго 70-годдзя, якое ён адзначае сёлета ў жніўні.**

**З народным паэтам Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэатам Літаратурнай і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру Піменам ПАНЧАНКАМ сустрэўся наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

*— «Я з семнаццатага. Мы равеснікі. Шлях прайшлі мы цяжкі і даўгі. То ў журбе, то ў атакі, то з песнямі, неслі мы агнявыя сцягі...» — гэта радкі са зборніка новых вершаў, дзе вы з грамадзянскай страсцю імкнецеся асэнсаваць пройдзены нашай краінай шлях за гады Савецкай улады, нашы набыткі і страты на гэтым нялёгкім шляху.*

*Скажыце, чым была рэвалюцыя ў вашым лёсе? Аб чым думаецца ў юбілейны для вас і для ўсёй краіны год?*

— Вельмі цяжка ўявіць сябе без нашай рэвалюцыі. Мы ўсе — савецкія людзі — яе кроўныя дзеці, яе нашчадкі. І менавіта цяпер, калі ў гісторыю адыходзіць наш «пачатак», мы ўсё часцей скіроўваем туды свой позірк, каб лепш зразумець, чаго мы дасягнулі, наколькі велічныя гэтыя дасягненні, чаго мы наогул вартыя, што мы — першая ў свеце дзяржава рабочых і сялян — павінны рабіць сёння і заўтра ў імя прагрэсу сацыялістычнага грамадства.

Гісторыя маёй краіны — гэта мой лёс, тым больш, што назіральнікам падзей я ніколі не быў — толькі ўдзельнікам! Давайце паспрабуем адкруціць час на 70 гадоў назад.

...У гарачы жнівеньскі дзень у сям'і рабочага ў Таліне, тады гэта быў Рэвель, нарадзіўся хлопчык. Маці яго, былая беззямельная сялянка з Міншчыны, якая разам з мужам перабралася сюды напярэдадні першай сусветнай вайны ў пошуках заробку, дала яму імя Пімен, спадзеючыся, што святы Пімен возьме пад сваю апеку дзіця, і лёс яго не будзе такім цяжкім, як у бацькоў.

Дарэчы, адсюль, з Рэвеля, адплывалі на далёкую чужыну сотні беларусаў, пакідаючы край, у якім не было для іх хлеба. Магчыма, і наша сям'я не пазбегла б такой долі. Але грымнула рэвалюцыя. І неўзабаве пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў мы вяртаемся дамоў.

Гэта з матчыных успамінаў. А вось і ўласныя. На святы збіраюцца ў нас госці, і бацька пачынае расказваць пра тое, як ён ваяваў з белагвардзейцамі, як штурмаваў Перакоп і Кахоўку. Для нас, дзяцей 20-х гадоў, рэвалюцыя была, ўласна кажучы, фактам біяграфіі: на нашых вачах адбываліся грандыёзныя перамены, увесь народ пачынаў адчуваць сябе гаспадаром зямлі, краіны, будучыні. З неверагоднай сілай выбухнула энергія, энтузіязм. Будавалася новае, разбуралася старое. Актыўных у грамадскім жыцці жанчын называлі ў нас тады «дэлегаткамі». А я ў шэсць гадоў уступіў у піянерскую арганізацыю, хаця па правілах туды прымалі з дзесяці. Канкрэтнымі справамі нам хацелася ўдзельнічаць у будаўніцтве сацыялізму ў краіне. У будынку царквы ў Бегомлі мы зрабілі свой клуб. А ў 1931 годзе мяне паслалі дэлегатам на І Усебеларускі з'езд піянераў у Мінск.

Гады вялікай перабудовы з іх драматызмам рашучай ломкі ўсяго аджыўшага, коснага, з іх бурлівым разводдзем падзей, з іх рамантыкай і кантрастамі пакінулі глыбокі след у свядомасці задоўга да выхаду ў «дарослае» жыццё.

Уся далейшая мая біяграфія зададзена рэвалюцыяй, падпарадкавана, падначалена лёсу краіны. Камсамол, першы зароблены хлеб (на дрэваапрацоўчым камбінаце ў Бабруйсцы), курсы па падрыхтоўцы ў сельскагаспадарчую акадэмію; пасля — курсы педагагічныя, затым праца настаўнікам на Бабруйшчыне і адначасова завочная вучоба ў інстытуце. А далей — вайна, мір, захоўваць які не так проста, і ў якім столькі праблем...

*— Што прымусіла вас узяць у рукі пяро? Калі гэта было? Пра што пісалі?*

— Яркія, незабыўныя ўражанні дзяцінства, само наша жыццё падштурхоўвала да творчасці. Памятаю, як уразіла мяне аднойчы песня, якую спявалі жанчыны, якія ішлі з поля з сярпамі: «То-то ель мая, зялёна...» Самі сабой складаліся радкі аб прыгажосці на[шага] краю, яго таленавітых і [пр]ацалюбівых людзях. Было мне тады гадоў 14. А ў 17 (у 1934 годзе) мой верш упершыню быў надрукаваны ў раё[ннай] газеце «Кіравец». Уся мая [юн]ачая радасць, захопленасць жыццём выліваліся ў шчырых, часам наіўных радках вершаў, што і склалі пазней (1938 год) першы паэтычны зборнік «Упэўненасць».

*— Неяк, выступаючы з артыкулам у «Литературной газете», вы падкрэслілі, што лічыце сябе не «чыстым» паэтам-лірыкам, але ў першую чаргу публіцыстам. Што вы мелі на ўвазе? Што для вас самае галоўнае ў паэзіі?*

— Як паэт, я пачынаў моцна захоплены ідэямі і духам свайго часу, акрылены вялікай народнай радасцю, што была народжана сацыялістычнай рэчаіснасцю. Аднак у жыцці, на жаль, існуе не толькі радасць, любоў і прыгажосць. Не заўважаць супярэчнасці, зло, несправядлівасць — быць сляпым і глухім. Таму паэт, я лічу, па сутнасці, не толькі мастак, але і хранікёр, гістарыёграф, калі хочаце, празорца, здольны распазнаць яшчэ ў зародку новыя з'явы грамадскага развіцця, даследаваць глыбінную сутнасць таго, што адбываецца сёння, і прадбачыць тыя праблемы і тыя задачы, якія будуць галоўнымі для нас заўтра. Таму паэт павінен ведаць усе «болькі» грамадства, адчуваць чужы боль, быць, так сказаць, на вастрыні свайго часу, узнімаць і адкрыта гаварыць пра самыя адмоўныя з'явы жыцця і аго надзённыя праблемы. Менавіта так я разумею публіцыстычнасць паэзіі.

*— Пра што павінен сёння пісаць паэт? У чым, на ваш погляд, заключаюцца задачы літаратараў, калі ў нашым грамадстве ідзе сапраўды рэвалюцыйная перабудова?*

— «У паэтаў няма забароненай тэмы...» — так пачынаецца адзін з маіх вершаў. У пісьменніка, паэта ва ўсе часы адна задача: пісаць праўдзіва і таленавіта. Быць прынцыповым. Хаця гэта і нялёгка. Нашто ламаць галаву над тым, што пісаць? Скажам, у нас, у роднай Беларусі, хіба мала праблем? Асабіста ў мяне, як у паэта і грамадзяніна, выклікае заклапочанасць абыякавае стаўленне пэўнай часткі беларусаў да сваёй спадчыны: гісторыі, традыцый, мовы... Наша маладое пакаленне, на жаль, усё часцей становіцца рабамі масавай культуры, якая нясе бездухоўнасць. А ў сучасным свеце чалавек без развітай духоўнай культуры ў канчатковым выніку аказваецца, як гаварыў Ленін, «па-за палітыкай», па-за перабудовай, за бортам сацыяльнай барацьбы. Вы не падумайце, што я з тых маралістаў, якім не падабаецца ўсё сучаснае, нязвыклае, маўляў, вось раней было... Ні ў якім разе! Але ў сучасным свеце мы, савецкія, як грамадства, моцныя якраз сваёй духоўнасцю, чалавечнасцю.

*— Пімен Емяльянавіч, у чым вы бачыце асаблівасці нашага часу?*

— Мы з вамі жывём у вельмі цікавы і складаны час. Колькі на зямлі мільярдаў людзей? Белыя, чорныя, жоўтыя — усе мы сёння надзвычай моцна звязаны паміж сабой — у нас адна планета, адно паветра, адно сонца... «Усё залежыць ад усіх, чым бы хто ні займаўся», — сказаў пісьменнік Чынгіз Айтматаў. Да таго ж, над усім чалавецтвам вісіць адна агульная пагроза — пагроза атамнай катастрофы. І вось жахлівы парадокс сучаснасці: людзей аб'ядноўвае пачуццё страху перад агульнай бядой. Узаемазалежнасць чалавецтва — рэальнасць нашага часу. І зыходзіць трэба з гэтага.

*— Вы многа пішаце пра складаныя праблемы часу, пра вострыканфліктныя з'явы ў жыцці грамадства. Нават і прыхільнікаў вашай паэзіі нярэдка шакіраваў маральны максімалізм, бескампрамісная прамата ў асуджэнні зла ў любым яго праяўленні, у сцвярджэнні праваты нашай маралі. Як у грамадстве ўспрымалася ваша крытычная пазіцыя ў адносінах да многіх момантаў жыцця?*

— Слова для мяне не сродак адлюстравання жыцця, а форма ўдзелу ў ім. Я ніколі не чакаў, пакуль час вынесе прысуд той ці іншай складанай і новай з'яве, а браўся судзіць яе рашуча і нават рызыкоўна, не баючыся ўзвальваць на плечы «персанальную» адказнасць. Таму, бывала, перападала ад крытыкаў і мастадонтаў перастрахоўкі. Але мяне заўсёды падтрымлівалі чытачы. Яны пісалі ў сваіх лістах, што мае вершы ўсяляюць у іх веру ў перамогу дабра над злом, праўды над няпраўдай. І прасілі зноў і зноў выкрываць бюракратаў, прыстасаванцаў, мяшчан, дэмагогаў, якіх нямала распладзілася ў нашым грамадстве, і якія, прыкрываючыся высокімі фразамі, ганьбяць імя савецкага чалавека, апашляюць ідэалы рэвалюцыі. А ўвогуле мой крытычны настрой у паэзіі падтрымліваўся не толькі «знізу», але і «зверху», у афіцыйных колах. У мяне вельмі часта выходзілі зборнікі паэзіі, у 1959 годзе за паэму «Патрыятычная песня» мне [бы]ла прысуджана Літаратурн[ая пр]эмія імя Янкі Купалы, у 1967 за кнігу вершаў «Прысвятле маланак» — Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы, а ў 1981 годзе за кнігу «Дзе [illegible]е жаўранак» — Дзяржаўн[ая п]рэмія СССР. Усе гэтыя ўзнагароды я ўспрымаю як знакі грамадскага прызнання, карыснасці і неабходнасці маёй працы.

**Мы гутарым з Піменам Панчанкам у яго дома, у высотным будынку па вуліцы Пулiхава. Вочы разбягаюцца ад мноства незвычайных сувеніраў, прывезеных гаспадаром, як відаць, з далёкіх падарожжаў па розных краінах свету. І дзе толькі не пабываў ён: аб'ехаў усю Еўропу, быў у Амерыцы, Афрыцы, Азіі, на экзатычных астравах, плаваў па акіянах, спускаўся ў старажытныя пячоры. Звычайна ў незнаёмай краіне імкнуўся загаварыць з жанчынамі, каб даведацца пра іх клопаты, радасці, жыццёвыя планы. «Усе простыя людзі на нашай зямлі, усе народы, як я зразумеў, — кажа Пімен Панчанка, — хочуць аднаго і таго ж: мірна жыць, быць шчаслівымі і гадаваць дзяцей. Але ж зноў парадокс цывілізацыі: то тут, то там успыхваюць малыя войны, накапліваецца зброя знішчэння, расце ўзаемная падазронасць і недавер».**

**...Вось-вось пойдзе дождж, нізка навіслі над зямлёй — як быццам збіраюцца прыдавіць — цяжкія шэрыя хмары. У такое надвор'е Пімен Емяльянавіч кепска адчувае сябе — цісне сэрца. А наогул усё жыццё вельмі любіў навальніцы. «Калі моцна разбушуецца стыхія: бліскаюць маланкі, шуміць раз'юшаны вецер, дрыжыць усё паветра — толькі тады, мусіць, сучасны чалавек і можа ўсвядоміць усю магутнасць і сілу прыроды, яе першабытную веліч», — кажа ён.**

**«Панчанка — паэт еўрапейскага маштабу. Ім магла б ганарыцца любая высокаразвітая літаратура...», — так сказаў пра свайго беларускага калегу балгарскі паэт. І гэта не камплімент. Слава Пімена Панчанкі заслужаная працай таленту і непадкупнай чысцінёй сумлення. Бадай, як бы ні быў заняты работай, як бы ні адчуваў сябе, але ніколі не адмовіць у дапамозе людзям, што звяртаюцца да яго, як да дэпутата альбо проста як да чалавека, камуніста, на чыіх вершах выхоўваліся і якому вераць.**

**Што любіць гаспадар гэтай кватэры! Па яго ўласнаму прызнанню, з усіх відаў мастацтва — найбольш музыку: Гайдна, Бетховена, Моцарта, Равеля, Свірыдава. Калі-нікалі для дзядулі іграюць на піяніна яго любімыя п'есы ўнучкі. Яшчэ адна моцная любоў Пімена Панчанкі — лес. Так, так. Ён рос сярод Бягомльскіх лясоў, дзе бацька быў дырэктарам лясгаса. Лес карміў, паіў іх сям'ю. Кожнае дрэўца, кожны кусцік і кветка былі яму роднымі, з імі ён мог размаўляць, усё роўна як з жывымі істотамі. Многа пахадзіў ён па лесе і са сваімі дзецьмі, унукамі — вучыў іх слухаць лес, шукаць грыбы, збіраць ягады.**

*— Як жа цяпер жывецца паэту? Ці не стамілася душа ў штодзённым сцвярджэнні дабра і справядлівасці, ці не хочацца ёй, нарэшце, спакою і камфорту?*

— Душа мая, магу вас запэўніць, такая ж маладая, як і 50 гадоў назад, хоць сілы не тыя... Спадзяюся, што магу яшчэ рабіць адкрыцці, любіць, ненавідзець, словам абуджаць у чалавеку лепшыя пачуцці.

**Хай хітрая слава мяне абміне,**
**Жыццё не пакіне трывожыць і вабіць.**
**А нехта ссылае ў старасць мяне,**
**Імкнецца мой гнеў да мяшчанства аслабіць.**
**Не здамся!**
**Бяссоннаю працай спалю**
**Сябе, ды ад праўды я не адступлюся.**
**І словам я сцверджу ўсё, што люблю**
**У народзе сваім і ў сваёй Беларусі.**

*— Я вам шчыра ўдзячная за інтэрв'ю. Ад імя нашых чытачоў дазвольце павіншаваць вас з днём нараджэння і пажадаць натхнення ў жыцці і ў вершах.*



**НА ЗДЫМКУ:** Пімен ПАНЧАНКА з унучкамі Кацярынай і Ксеніяй.

## ДЛЯ КАГО ПІШУЦЦА КАРЦІНЫ

# ЛІХА АД ДАБРА

З усіх відаў мастацкай дзейнасці сёння ў СССР, бадай, найбольшай крытыцы падвяргаецца выяўленчае мастацтва. Многа гавораць аб тым, што яно перабудоўваецца марудна, што ў ім моцныя тармозячыя тэндэнцыі, што яно не ўлічвае змяненняў, якія адбываюцца ў жыцці краіны і сэрцах людзей. Прыкладаў прыводзіцца маса. Галоўны — пустуючыя выставачныя залы, дзе пераважае шэрасць і невыразнасць. У шэрагу духоўных запатрабаванняў насельніцтва, як устанавілі сацыёлагі, выяўленчае мастацтва знаходзіцца на апошнім месцы.

Кіраўнікі Саюза мастакоў часткова прызнаюць гэтую крытыку. Але толькі часткова. Іх контрдовад зводзіцца да вядомага крылатага выразу: «А суддзі хто?» Не адмаўляючы наяўнасці «шэрасці», яны ў той жа час лічаць, што паняцці «слабая работа», як і «моцная»,— у многім суб'ектыўныя. «Нават сярод спецыялістаў, — заўважае сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР Уладзімір Гараінаў,— далёка не заўсёды адчуваецца адзінства ў ацэнцы твораў. Так што колькасныя характарыстыкі не заўсёды адпавядаюць сапраўдным каштоўнасцям».

Гэты довад нечакана атрымаў своеасаблівую падтрымку ад літаратурнай статыстыкі. Высветлілася, напрыклад, што адзін з буйнейшых і найбольш цікавых савецкіх празаікаў Чынгіз Айтматаў па папулярнасці ў чытачоў стаіць на 15 месцы, а кумір інтэлігенцыі Юрый Трыфанаў у спіс з 25 тых пісьменнікаў, хто «найбольш спадабаўся», нават не трапіў.

Але пакінем гэтую спрэчку з аргументамі абодвух бакоў і пагаворым аб сістэме забеспячэння мастака ў СССР, таму што тут, як нам уяўляецца, і крыецца асноўная прычына застойнасці ў выяўленчым мастацтве.

Саюз мастакоў СССР і яго фонд стварылі савецкім жывапісцам, графікам, скульптарам такія спрыяльныя ўмовы, якіх няма нідзе ў свеце. Тут няма перабольшання. Гэты факт добра вядомы і прызнаны замежнымі спецыялістамі. Савецкі мастак можа сабе дазволіць займацца выключна мастацтвам, не хвалюючыся пра хлеб надзённы. Ён выстаўляецца столькі, колькі дазваляе яго талент і працаздольнасць. Ён вольны ад камерцыйных узаемаадносін, павеваў моды, бульварнай крытыкі.

Мастакі (у асобе сваёй арганізацыі) самі вырашаюць, што будуць ствараць, самі ацэньваюць якасць сваіх твораў. Творы ім заказваюцца выставачнай камісіяй, якая складаецца з мастакоў. Аўтар піша карціну — прымаецца яна мастакамі. Мастакамі яна выстаўляецца, мастакамі абмяркоўваецца, мастакамі купляецца...

На першы погляд такая сістэма амаль ідэальная. Таму што яна абараняе мастацтва ад некампетэнтных уплываў. Але менавіта гэта прагрэсіўная, сацыялістычная форма творчай арганізацыі тоіць у сабе і дыялектычныя супярэчнасці. Варта толькі аслабіць нейкія ўнутраныя механізмы, і ўзнікае цяплічная абстаноўка, застойныя з'явы. Паступова знікаюць элементы конкурснасці і спаборніцтва (усе маюць права выстаўляцца, і ўсе гэтым правам карыстаюцца — пытанне якасці адсоўваецца на другі план), слабее творчая абстаноўка, зніжаюцца крытэрыі ацэнак, знікае публічнасць, крытыка і самакрытыка.

Мастак немагчымы без гледача, як глядач без мастака. Мастак заклікаsuccessful выхоўваць густ. Глядач — перасцерагаць яго ад паўтораў, надуманасцей, самасупакоенасці. Між тым выяўленчае мастацтва — у адрозненне ад літаратуры, кіно, музыкі — аказалася абсалютна не адчувальным да паводзін наведвальнікаў. Глядач не можа ўплываць на мастака — так было задумана з самага пачатку. І выстаўка любога члена Саюза «функцыяніруе» абавязковыя тры тыдні, нават калі яе ніхто не наведвае. Карціны ці скульптуры набываюцца Саюзам мастакоў, нават калі яны нікому не патрэбны...

На Усходзе гавораць: «Вельмі добра — таксама нядобра». Варка ва ўласным саку да дабра не прыводзіць. Цяжка ўявіць акцёраў, якія іграюць толькі для калег, пісьменнікаў, што пішуць для пісьменнікаў, кінематаграфістаў, якія паказваюць для кінематаграфістаў.

У залатой сярэдзіне заключаецца дабрачыннасць, гаварылі старажытныя мудрацы. Зразумела, мастак не павінен залежаць ад неразвітых густаў, ад «наведвальнасці». Аднак ён не павінен і не можа адрывацца ад настрояў часу, ад жывых інтарэсаў гледачоў, ад сувязей з імі. Таму што менавіта з-за гэтаг[illegible] адрыву выстаўкі апошніх год та[illegible]дка радуюць сапраўднымі адкрыццямі, прыемнымі нечаканасцямі, новымі імёнамі.

Перабудовай у выяўленчым мастацтве, на думку мастацкай грамадскасці, трэба ахапіць у[illegible]істэму Саюза мастакоў. Упор у [illegible]шую чаргу рабіць на публічнасць. Грамадскасць хоча ведаць, чым матывуецца заахвочванне таго ці іншага жывапісца, як праводзіцца закупка твораў, чаму папулярызуюцца адны імёны і застаюцца ў ценю другія.

Вельмі характэрна, што пад напорам грамадскай думкі вырашана цяпер пераходзіць на парадак, калі кожны мастацкі агляд становіцца выстаўкай-продажам. Вядома, гэта ўдарыць па кан'юнктуршчыкам і пасрэднасцям, але ўзніме прэстыж мастацтва, ясна пакажа ўсім, «хто ёсць хто».

Марнатраўнаму, беспрынцыпнаму мецэнацтву прыходзіць канец. Яно абыходзілася і дзяржаве і народу занадта дорага. Таму што сродкі на выстаўкі і закупку браліся не з неба. І заахвочваўся не толькі талент...

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**



**Нязменным поспехам карыстаюцца выступленні фальклорна-этнаграфічнага калектыву Няхачаўскага сельскага клуба Івацэвіцкага раёна, што на Брэстчыне. Народныя песні і абрады, поўныя вяселля і гумару частушкі знаходзяць жывы водгук у гледачоў. Самадзейны калектыў аб'ядноўвае рабочых і служачых торфапрадпрыемства, пенсіянераў—жыхароў пасёлка Зялёны Бор.**
**НА ЗДЫМКУ: фальклорна-этнаграфічны калектыў Няхачаўскага сельскага клуба.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

# ГОСЦЬ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Госцем Саюза пісьменнікаў Беларусі быў польскі пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Новэ ксёнжкі» Януш Тэрмер. Ён наведаў Дом-музей І з'езда РСДРП, музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, мемарыяльны комплекс «Хатынь», Літаратурны музей Янкі Купалы, зрабіў паездку на радзіму Якуба Коласа ў Стаўбцоўскі раён. Госць таксама наведаў мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча і Сыракомлі — Навагрудак, Нясвіж, возера Свіцязь, Мірскі замак. Януш Тэрмер быў прыняты ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, а таксама ў Генеральным консульстве ПНР у Мінску.

У Гродне Януш Тэрмер азнаёміўся з культурным жыццём горада, яго выдатнымі мясцінамі, меў гутарку з гродзенскімі пісьменнікамі.

Па маёй просьбе госць з Польшчы адказаў на некалькі пытанняў.

**— Што ўяўляе сабой часопіс «Новэ ксёнжкі», які вы ўзначальваеце?**

— Часопіс заснаваны ў 1949 годзе. Ён прысвечаны агляду і рэцэнзаванню новых кніг мастацкай, навукова-папулярнай і літаратуры па мастацтву. У кожным нумары звычайна змяшчаецца публіцыстычны артыкул — своеасаблівая дамінанта нумара, — прысвечаны пэўнай праблеме. Калі выходзіць кніга выдатнага пісьменніка, то мы прысвячаем яму вокладку, даём інтэрв'ю і разгорнутую рэцэнзію або некалькі водзываў пра яго. Гэта можа быць таксама і кніга іншага плана — па гісторыі, мастацтву, праву, усё тое, што, на нашу думку, зацікавіць шырокага чытача. Акрамя гэтага, змяшчаем рэцэнзіі на самыя значныя навінкі. Цяпер рыхтуем нумар, прысвечаны перакладной мастацкай літаратуры. Ён будзе прысвечаны 70-годдзю Кастрычніка.

**— Мэта вашага прыезду?**

— Хачу напісаць нарыс пра культурнае жыццё Беларусі для калектыўнага зборніка, які павінен выйсці ў Лодзі. Пятнаццаць польскіх пісьменнікаў выехалі ў саюзныя рэспублікі СССР, і кожны напіша пра свае ўражанні.

**— Якія вашы ўражанні?**

— Самыя добрыя. Дзякуючы маім сябрам — пісьменнікам з Мінска і Гродна — я змог убачыць многае, сустрэцца з цікавымі людзьмі, пазнаёміцца з вашым літаратурным і культурным жыццём, адчуць здаровую атмасферу грамадства. Прыемна зазначыць, што спадчыну Міцкевіча, Ажэшкі беларусы ўспрымаюць, як сваю. Я ўжо не кажу пра Сыракомлю, які пісаў і па-беларуску. Шкада, што некаторыя старэйшыя перакладчыкі вашай літаратуры на польскую мову пайшлі ад нас — не стала Гушчы, Канановіча, Сікірыцкага. Будзем спадзявацца, што маладыя возьмуць у свае рукі гэту справу і што, з другога боку, польская літаратура будзе знаходзіць на Беларусі сваіх перакладчыкаў і чытачоў.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

## У БЫЛОЙ СЯДЗІБЕ РЭРЫХАЎ АДКРЫТЫ МУЗЕЙ

# У ІЗВАРУ, ДА МАСТАКА

«Дом ізварскі стары, сц[illegible] быццам крапасныя, напэўна і па с[illegible]ня стаіць, усё ў ім было мілым, у пярэднім пакоі пахла яблыкамі, у доме віселі копіі галандскіх карцін. Вялікія к[illegible]ы чырвонага аксаміту ў кутах. Для [illegible]ей адзін пакой зялёны, другі блакітны. Але гэта няважна, важна прыехаць у Ізвару. Ландо шаргаціць па гравію міма алей парку. За бярозамі і бружмелем забялеў дом. І ўсё тут падабаецца, тым і запомнілася праз усе гады...» Так з пяшчотай успамінаў Мікалай Рэрых аб гэтым доме, якім яго сям'я валодала з 1872 па 1900 год.

З Ізварай, што знаходзіцца за 100 кіламетраў ад Ленінграда, звязаны дзіцячыя і юнацкія гады Мікалая Рэрыха, пачатак яго творчасці, гістарычных і археалагічных даследаванняў. Тут у 1893 годзе малады мастак напісаў карціны «Плач Яраслаўны», «Курганы». У Ізвары ў 1897 годзе ён задумаў серыю карцін «Пачатак Русі. Славяне». У ізварскай майстэрні Рэрых працаваў над сваім дыпломным палатном «Ганец. Паўстаў род на род». Гэта карціна стала пачаткам яго славы.

Амаль стагоддзе прайшло з таго часу.

...Мы пад'язджаем да сядзібы. Алея старых-старых елак вядзе да дома. Востраканцовыя вежы відаць здалёку. Вось і тэраса, якую так любіў Мікалай Рэрых, стары свіран, дзе некалі была яго майстэрня...

Усё тут адноўлена ў ранейшым выглядзе. Хоць захаваліся пасля вайны толькі каменныя фундаменты кацярынінскіх часоў. У 1972 годзе, рыхтуючыся да стагоддзя з дня нараджэння Рэрыха, дом аднавілі. Тут размясціліся школа і бібліятэка.

Галіна Пятрова, старшыня Ізварскага сельскага Савета, расказвае:

— Ужо ў пачатку 60-х гадоў з'явілася паведамленне аб рэрыхаўскай Ізвары ў ленінградскіх і іншых газетах. Прыязджалі экскурсанты, аматары творчасці Рэрыха. Я тады працавала бібліятэкарам. Даводзілася адказваць на пытанні аб славутым земляку. Потым нарадзіўся пры бібліятэцы клуб аматараў мастацтва «Ізваране». Ён аб'яднаў прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі. Урачы, настаўнікі, старшакласнікі. Раз у месяц збіраліся ў бібліятэцы, рыхтавалі даклады аб творчасці Рэрыха, аб яго жыцці.

У клуба многа сяброў з Ленінграда, Прыбалтыкі. Паступова мы сабралі матэрыялы аб жыцці Рэрыха ў Ізвары, фатаграфіі, успаміны, копіі з карцін. І ў 1984 годзе Ленінградская абласная дырэкцыя музеяў падрыхтавала пастаянную экспазіцыю.

Дырэктар музея Уладзімір Рэзнік, па прафесіі гісторык-археолаг, выпускнік Ленінградскага універсітэта. Штогод Ізвару наведваюць 9 000 чалавек. «Кожны, хто захоча, можа прыйсці сюды ў любы час, — расказвае У. Рэзнік, — мы заўсёды гатовы прыняць паклоннікаў Рэрыха. У невялікай экспазіцыі вельмі цікавыя дакументы ізварскага перыяду: малюнкі Рэрыха, копіі пісем, адпраўленых з Ізвары. Рэрых вельмі любіў паўночную прыроду і абхадзіў з эцюднікам усё наваколле».

Над уваходам—Сцяг міру. Яго прыслалі з Нью-Йорка супрацоўнікі амерыканскага музея Рэрыха.

«Цяпер у свеце два рэрыхаўскія музеі, уключаючы наш,—гаворыць з гордасцю У. Рэзнік.—Амерыканскія калегі падарылі нам слайды, паштоўкі, кнігі, прысвечаныя творчасці мастака. Мы марым увесь дом заняць пад экспазіцыю і зрабіць яго Музеем Рэрыхаў — бацькі і абодвух сыноў. На жаль, у экспазіцыі практычна адсутнічаюць работы мастакоў. Экскурсанты прыязджаюць здалёк, многія не бачылі работ Рэрыхаў у музеях. Таму галоўная наша мара—атрымаць для музея палотны мастакоў Мікалая Канстанцінавіча і Святаслава Мікалаевіча.

Вядуцца перагаворы са смаленскім музеем, дзе захоўваюцца эскізы роспісаў царквы ў Талашкіне. Сама царква, на жаль, не захавалася. Тым больш цікава экспанаваць эскізы.

У Рускім музеі ў Ленінградзе многа карцін Рэрыха. Мы спадзяемся, што ў Ізвары будуць выстаўляцца арыгіналы. Працягваецца рэканструкцыя сядзібы. У гэтай справе ў музея многа памочнікаў-энтузіястаў».

Пры ізварскай сярэдняй школе створаны клуб «Юны археолаг». Яго члены працягваюць справу, пачатую некалі Мікалаем Рэрыхам, вывучаюць навакольныя курганы і помнікі даўніны. Музей-сядзіба Рэрыха стала культурным цэнтрам раёна. Цікавасць да творчасці Рэрыха прыводзіць сюды тысячы людзей.

У 1986 годзе, восенню, у дзень нараджэння Рэрыха, 9 кастрычніка, было праведзена першае рэрыхаўскае свята. Сюды, у Ізвару, з'ехаліся каля 600 чалавек. Тэраса дома ператварылася ў своеасаблівую сцэну. Сімвалам свята сталі кветкі лотаці і рамонкі, увасабляючы дзве радзімы мастака—Расію і Індыю.

Свята вырашана зрабіць традыцыйным. Як гавораць ахоўнікі ізварскай сядзібы, мяркуецца стварыць яшчэ адзін музей Рэрыха — у Вялікім Уймоне на Алтаі.

**Ала БЕЛЯКОВА.**

## ПРАЦАВІТЫЯ САНІТАРЫ

Летнім ранкам пайшоў у лес. Сонца яшчэ не прыгрэла, таму прахалода прыемна лашчыла твар, дыхалася лёгка, пахла смалою-жывіцаю, маладым лісцем.

На лясной дарожцы ўбачыў забітага вужа.

«Трэба ж было некаму забіць бяскрыўднага жыхара лесу», — падумаў і бачу, як тры вялікія рыжыя мурашкі накіраваліся да вужа. Потым адна за адною абеглі яго кругам, сваімі вусамі кожная кранула вужа. Пасля мурашкі нібы пашапталіся і хуценька пабеглі ў лес. Мяне яны зацікавілі, і я пайшоў збоку ад іх. «Куды яны так спяшаюцца?»

Праз метраў дваццаць пад тоўстаю дуплаватаю ялінаю ўзвышаўся мурашнік. На ім кішма кішэлі тысячы такіх жа мурашоў. Сярод іх згубіліся і мае знаёмыя.

Стаю і назіраю мітусню гэтых працавітых істот. Праз некалькі хвілін сотні мурашоў па тым жа следзе, што і першыя тры, спяшаліся цугам да дарожкі, дзе ляжаў вуж. Як толькі першыя дабіраліся да яго, яны абягалі яго кругом і толькі потым кідаліся на знаходку. Праз некалькі хвілін вуж быў пакрыты цёмна-жоўтымі мурашкамі.

Пад вечар, вяртаючыся дамоў, я зазірнуў на гэтую дарожку. На тым месцы, дзе раніцаю ляжаў вуж, быў толькі цэленькі яго шкілет.

«Добрую справу зрабілі працавітыя санітары лесу», — падумаў я.

Я. КРАМКО.

## ЦЯЖКАВОЗЫ-РЭКАРДСМЕНЫ

Роданачальнікам цяжкавозных коней у БССР быў тройчы чэмпіён СССР мсціслаўскі жарабец Сегмент. Ён паказаў максімальную сілу цягі, што перавышала 20 тон. А вось яго сын Прыбой у 1980 годзе на ўсесаюзных спаборніцтвах асіліў груз 25 тон.

Чэмпіёнам пароды стаў і ўнук Сегмента — Рулет.

Апошнія гады за мсціслаўскага жарабца на аўкцыёнах плацяць 6-7 тысяч рублёў, а за асобных—да 9-10 тысяч рублёў.

## ЗНАХОДКА Ў ПАРКУ

Стаянку першабытнага чалавека выявілі археолагі ў гарадскім парку Рэчыцы на высокім беразе Дняпра. Яны сабралі вялікую калекцыю прылад працы, якія скарыстоўвалі нашы продкі ў каменным веку. Выробленыя з мелавога крэмню шэрага і чорнага колераў наканечнікі стрэл, шматлікія каменныя прылады сведчаць аб тым, што старажытнае племя палявала на звяроў, апрацоўвала здабычу.

І. ШПАДАРУК.

...Чырвоныя, як мак, зялёныя, нібы трава, блакітныя, як бясхмарнае неба, белыя, што тыя лебедзі, — проста вочы разбягаюцца ад рознакаляровых ветразей на Заслаўскім вадасховішчы. Плаванне на яхтах стала для многіх мінчан любімым відам адпачынку. Дзесяткі з іх да таго ж сталі добрымі спартсменамі. Беларускія яхтсмены з поспехам выступаюць на афіцыйных міжнародных спаборніцтвах.

НА ЗДЫМКУ: яхты на Заслаўскім вадасховішчы.

Фота Ю. ЗАХАРАВА.




РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва
Зак. 1134